*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2020, № 4(*50*). Сакавік



## Паміж зямлёй і небам

Дагэтуль мы бачылі такое толькі ў фільмах-катастрофах. Але гэта былі фантазіі/здагадкі сцэнарыстаў і рэжысёраў. Тое, што адбываецца на нашых вачах ужо некалькі месяцаў — жахлівая рэчаіснасць. Ад яе не схавацца, не збегчы...

Чалавецтва ўжо не раз сутыкалася з нябачным ворагам і кожны раз знаходзіла сілы, каб яго перамагчы. Але ўпершыню гэта адбываецца ў эпоху інтэрнэту, сацыяльных сетак, мабільнай сувязі. Інфармацыя перадаецца імгненна. І кожны яшчэ можа ў рэжыме рэальнага часу сачыць за тым, як увесь свет ідзе да самаізаляцыі. Каб выжыць.

Пераможам бяду і на гэты раз. Праўда, невядома, якой цаной і як хутка. Пасля Чарнобыля прайшлі дзясяткі гадоў, а яго наступствы адчуваем дагэтуль. Час лечыць, але вельмі марудна...

А пакуль паміж зямлёй і небам ідзе нябачная вайна.



## Леў Сапега — пра незалежнасць



Гэты тэкст напісаў дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега (1557 — 1633), як прадмову да Трэцяга Стутута ВКЛ, кодэкса законаў, што быў надрукаваны ў 1588 годзе. Ён звяртаецца да насельніцтва краіны, абгрунтоўвае важнасць незалежнасці, свабоды, панавання права. Са старабеларускай мовы тэкст узнавіў паэт Алесь Разанаў.*

*Працяг на ст. 3*

# Жыровіцкія манеты

Прэс-служба Нацбанка Беларусі паведамляе пра запланаваны выхад памятных манет, якія маюць дачыненне да Слонімшчыны. Гэта — сярэбраная і медна-нікелевая манеты *“550 гадоў здабыцця цудатворнай Жыровіцкай іконы Божай Маці”.* Першая мае намінал 100 рублёў і наклад 599 штук, другая — 1 рубель і 1999 штук. У адпаведнасці з пастановай праўлення Нацбанка (№ 69 ад 10 сакавіка), у абарачэнне манеты трапяць з 14 красавіка. Яны з’яўляюцца “законным плацёжным сродкам”.

# Калектыўны зварот

Група слонімцаў, “прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці”, накіравала зварот у Слонімскі райвыканкам *“з прапановай адсвяткаваць гістарычную падзею ўтварэння БНР на раённым узроўні”.* На іх думку, гэта маглі быць мерапрыемствы “ў розных фарматах: канцэрт, фотавыстава, мітынг, віктарыны, конкурсы, сустрэчы і г. д.”.

ХРОНІКА

# Краязнаўчы форум



12-13 сакавіка ў Мінску прайшоў Першы рэспубліканскі краязнаўчы форум Беларусі. Сярод яго арганізатараў — Міністэрствы культуры і інфармацыі. Адна з кніг слонімца Сяргея Чыгрына трапіла ў лік найлепшых краязнаўчых выданняў краіны за 2017-2019 гады.

# Два этапы добраўпарадкавання Жыровічаў

План комплекснага добраўпарадкавання Жыровічаў распрацоўваецца прадпрыемствам “Інстытут Гроднаграмадзянпраект”. У каментары sb.by галоўны архітэктар арганізацыі Аляксандр Захарчук кажа, што запланаваныя два яго этапы. Першы мусіць завяршыцца да травеньскіх юбілейных святаў. У яго рамках цэнтральную плошчу мястэчка часткова забрукуюць бетоннай пліткай, якая імітуе натуральны камень. Там з’явяцца лаўкі, асвятленне. Будзе вычышчаны вадаём, умацаваны яго берагі, з’явіцца назіральная пляцоўка. У рамках другога этапу мусіць адбыцца мадэрнізацыя аграрна-тэхнічнага каледжу і добраўпарадкаванне тэрыторыі каля яго.


sb.by

# Леў Сапега — пра незалежнасць

*Працяг, пачатак на ст.1.*

Мудрыя людзі ўсіх стагоддзяў сыходзіліся на думцы, што ў кожным — калі б яно ні ўтварылася — гаспадарстве дастойнаму чалавеку нічога не можа быць даражэй за вольнасць. Затое няволя яму настолькі агіднаю мае быць, што не толькі маёмасцю, а і смерцю яе адганяць ад сябе павінен.

Таму і не дзіўна, што людзі, якія сябе шануюць, каб не падпасці пад панаванне чужацкае, у змаганні з усякім наспротнікам не шкадавалі ні скарбаў сваіх, ні горлаў. Калі ж аднак, здаралася, трацілі волю, дык усё роўна паводле парадкаў чужых не хацелі жыць.

А хіба лепей намнога, каб чалавек быў ад староння́га ворага вольны, ды мусіў свайго трываць над сабою?! Вось жа, на ўтаймаванне ўсякага ліхадзея вынайдзены муштук, ці — іначай — цуглі, каб, маючы боязь перад законам, утрымліваўся ад гвалту і ад сваволі і над слабейшым ды над бяднейшым не пасвіўся і не змушчаўся.





Закон і ўсталёўваецца на тое, каб дужы-заможны не ўсё, што яму зажадаецца, рабіў. Як зазначыў некалі Цыцэрон, каб маглі мы вольнасцю карыстацца, становімся для таго нявольнікамі закону.

Калі наймілей дастойнаму чалавеку жыць у айчыне сваёй бяспечна і не баяцца, што нехта добрую славу яго зганьбуе альбо здароўю яго і целу прычыніць шкоду, альбо маёмасці — страту, нічому другому, адно закону дзякаваць мае, што век у спакоі жыве і ніякай змушты, ніякага абылгання і крыўды ніякай не зносіць. Мэта і вынік усіх законаў, што існуюць на свеце, — каб кожны добрую славу сваю, здароўе і скарб-нажытак меў непашкоджанымі і страты ў гэтым ніколі не спадкаваў.

Наша вольнасць, якою мы ганарымся сярод хрысціянскіх народаў, найперш у тым палягае, што пана, які б панаваў не паводле законаў, але паводле жадання свайго, над сабой не маем, а самі валодаем сваёй славай, нажыткам сваім і сваім жыццём.

Бо калі б хто-кольвечы нас у гэтых трох рэчах укрыўдзіў і пасвіцца стаў над намі паводле свайго ўпадабання, той быў бы не панам нашым, а — парушальнікам нашых законаў і руйнавальнікам вольнасцяў апынуўся, а мы — нявольнікамі ў яго. Але, дзякаваць пану Богу, за панаваннем іх міласці каралёў і вялікіх князёў, з

*Працяг на ст. 4*

# Леў Сапега — пра незалежнасць

*Працяг, пачатак на ст. 3.*

праўдаю ў згодзе, маем гэтую ўладу і вольнасць нашу ў сваіх руках і, законы творачы самі сабе, старанна вольнасць ва ўсім зберагаем. Не толькі сусед і супольны жыхар у айчыне, але і сам пан гаспадар над намі ніякай звярхоўнасці ўжыць не можа, адно толькі тое, што дазваляе яму закон.

Маючы ў нашых руках гэтакі скарб, што ніякай капою грошай аплочаны быць не можа, належыць, каб кожны дастойны жыхар гаспадарства уведаў аб ім і, уведаўшы добра, утрымліваўся ад спакусаў і сунімаў заўзятасць, і згодна з законам напісаным справаваўся і анікога не крыўдзіў.

Але калі будзе пакрыўджаны сам, каб ведаў, дзе абароны і лекаў у крыўдзе сваёй шукаць. Як адзін рымскі сенатар другога за тое ўпікаў, што той закону айчыны сваёй не ведаў, гэтак усякі жыхар, што сваёю вольнасцю ганарыцца, але не хоча ні ўведаць, ні зразумець закону, якім абаронена вольнасць яго, заслугоўвае ганьбавання.

І калі сорам другому якому народу законаў сваіх не ведаць, то нам пагатоў — бо маем законы, што пісаны не чужой, а сваёю моваю, і заўжды даведацца можам, што трэба, зрэшты, нам для адпору крыўды.

А так як не кожны жыхар мог займець Статут, бо доўгі клопат яго перапісваць самому, сталася ў карыстанні нястача Статутаў важкай. Таму, спрыяючы ў гэтай патрэбе кожнаму жыхару і ў спажытку служачы нашаму гаспадарству, наважыўся я на сябе ўзяць, не шкадуючы кошту свайго і выдаткаў, працу — і, збор нашых законаў у друк падаўшы, дарогу лацвейшую, шлях прасцейшы да ведання іх паказаць жыхарам нашага гаспадарства. Цяпер кожны, калі захоча, можа іх мець у сваіх руках, можа як след карыстацца імі.

А вас, міласці вашы, прашу ад мяне прыняць гэтую працу ўдзячна і, маючы вольнасці, што ўсебакова законамі абаронены, пільнавацца, каб абіраліся і ў суды, і ў трыбуналы людзі, якія не толькі добра дасведчаны ў нашых законах, але і сумленне маюць, і Бога баяцца; якія б дзеля спажытку свайго, ласункаў ды падарункаў, на шкоду бліжнім, законаў не перакручвалі, але, простай дарогаю ідучы, трымаліся праўды святой і людской справядлівасці і захавалі вольнасць, якою мы цешымся, у цэласнасці непарушнай. З тым даручаю гэтую працу маю ласцы і міласці вашай братэрскай.

**Тэкст передрукоўваецца паводле публікацыі ў мінскім часопісе "Крыніца" (№ 1-2 за 1995 год).*

# Як у Слоніме Леніна "замянілі" на Сапегу

У жніўні 2019 года ў нашым горадзе ўсталявалі помнік Льву Сапегу. У той час гэтая навіна з'явілася ў большасці беларускіх СМІ ды трапляла нават у замежныя. У адным выпадку здарылася кур'ёзная сітуацыя. У польскай Вікіпедыі ў артыкуле пра Слонім ёсць такі сказ: *"У 2019 г. з плошчы Леніна прыбралі помнік Уладзіміра Леніна і замянілі яго на помнік Льва Сапегі".** Спасылка вяла на польскамоўную версію сайта тэлеканала "Белсат". Загаловак там такі: *"Леў Сапега замяніў Леніна ў Слоніме".*** У тэксце гэтая непраўдзівая інфармацыя таксама прысутнічае са спасылкай на... "Газету Слонімскую", якая такога не магла напісаць. Пры гэтым у беларускамоўным варыянце артыкула на сайце "Белсата" ўсё напісана правільна.*** Зусім магчыма, што якраз у ім ад пачатку была памылка, якую выправілі, але пра польскамоўную версію забыліся. У выніку нарадзіўся міф пра замену помнікаў у Слоніме.




●СЁ

**https://pl.wikipedia.org/wiki/S%C5%82onim*

***Lew Sapieha zastąpił Lenina w Słonimie // https://belsat.eu/pl/news/lew-sapieha-zastapil-lenina-w-slonimie/*

****У Слоніме на плошчы Леніна ўсталявалі помнік Льву Сапегу // https://belsat.eu/news/u-slonime-na-ploshchy-lenina-ustalyavali-pomnik-lvu-sapegu/*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Дом каля касцёла святога Андрэя



Гэты здымак зроблены ў нашым горадзе падчас Першай сусветнай вайны. У сакавіку 2020-га ён з'явіўся на сайце ebay.com. На ім бачым касцёл святога Андрэя ў Слоніме. У кадр трапіў драўляны дом, які ў той час стаяў каля самай дарогі. Ён трапляў і на іншыя тагачасныя здымкі, быў зняты з падобнага ракурсу. Толькі тыя паштоўкі былі гарызантальныя. Цяпер жа знайшліся дзве вертыкальныя паштоўкі. На адной з іх фота было скадравана — галоўная ўвага надавалася касцёлу, а дом моцна абрэзалі. На іншай засталіся неабрэзанымі і дом, і дарога.

Найхутчэй паштоўкі былі выдадзены нямецкімі вайскоўцамі ў Слоніме.

●Генадзь Гурскі

## 25 сакавіка — Дзень Волі

У Рэспубліцы Беларусь ёсць святы афіцыйныя і неафіцыйныя. Да апошніх адносіцца Дзень Волі, які штогод святкуецца беларускімі патрыётамі па ўсім свеце. 25 сакавіка 1918 года ў Менску была абвешчана дзяржаўная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля соцень гадоў чужацкай няволі і патопленых у крыві вызваленчых паўстанняў беларусы нарэшце заявілі пра сябе і сваё жаданне "людзьмі звацца".

Заявілі, але не паспелі стварыць беларускае войска, каб абараніць ад суседзяў родную зямлю. Тым не менш, гэта быў важкі крок да будучай незалежнай Рэспублікі Беларусь. Гэта ўжо прызнаецца цяперашнімі ўладамі. Але свята пакуль застаецца неафіцыйным.

Дзяржаўнымі сімваламі БНР былі бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". Як у незалежнай Беларусі пачатку 1990-х.

Са святам, сябры!

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты

*Працяг, пачатак у № 5-8,10-11, 2019 г., № 3, 2020 г.*

У № 97 ад 5 снежня 1917 года “Kriegszeitung von Baranowitschi” (“Ваенная газета ў Баранавічах”) апублікавала зацемку пра мастацкую выставу ў Слоніме. Яе арганізавалі нямецкія вайскоўцы, у большасці непрафесійныя мастакі. Выставу ж яны зладзілі дастаткова прафесійна. У кнізе Уладзіміра Ліхадзедава “Слонім. Падарожжа ў часе” (Мінск, 2019) змешчана некалькі здымкаў экспазіцыі выставы і нават рэкламная паштоўка, адмыслова выпушчаная да яе адкрыцця! На ёй бачым выяву будынка, у якім яна праводзілася.* На жаль, толькі нямногія малюнкі з выставы траплялі на старонкі баранавіцкай газеты ці ў слонімскі гумарыстычны перыёдык “Шчараўская жаба”. На іх бачым слонімскія вуліцы і слонімцаў, навакольныя вёскі і краявіды. Дзе яны цяпер, ці захаваліся? Не трэба казаць, які гэта скарб для нашай гісторыі.

Важна высветліць, ці не была гэта першая мастацкая выстава ў Слоніме?

Аўтарам зацемкі пра выставу найхутчэй з’яўляецца Ганс Баштаньер, які ў ёй таксама згадваецца.

### Мастацкая выстава ў Слоніме

З першага снежня [1917-га] ва ўтульнай чытальнай зале мясцовага Геадэзічнага аддзялення адкрылася мастацкая выстава. Яна складаецца з больш за 200 працаў, якія выкананыя салдатамі і афіцэрамі, што дыслакуюцца ў Слоніме і наваколлі. Калі ацэньваць выставу крытычна, то можна сказаць, што агулам працы былі сярэдняга мастацкага ўзроўню, але некаторыя з іх адрозніваліся высокім прафесіяналізмам выканання.






*Экспазіцыя выставы ў Слоніме ў снежні 1917-га і рэкламная паштоўка. З кнігі Уладзіміра Ліхадзедава “Слонім. Падарожжа ў часе”*

Вядома ж, большасць працаў выкананы мастакамі-аматарамі. Напэўна, вайна, якая часта знішчае квітнеючае жыццё, разбудзіла ў людзях новыя эмоцыі, пачуцці і здольнасці. Раней у грамадзянскім жыцці яны ў іх не сустракаліся... У людзей нібы адкрыліся вочы на прыгажосць навакольнай прыроды, на хараство мясцовых пейзажаў... Таму не дзіўна, што ў прадстаўленых тут пейзажных працах, тэма краю** і Слоніма адлюстраваны шматкроць і ў разнастайных варыянтах.

Мастаку Ахтэнхагену (Achtenhagen), які ў грамадзянскім жыцці быў простым тэхнікам, выдатна ўдалося адлюстраваць прыгажосць мясцовага** ландшафту. Адзін яго каляровы малюнак мае назву “Татарская гара” (варыянт перакладу — “Татарскі замак” — І.П.). Як для непрафесійнага мастака ён выкананы проста выдатна.***

Акварэлі Э. Градмана (E. Gradmann), былога архітэктара, выдатна адлюстроўваюць фарбы мясцовай прыроды, таксама як і каляровыя карціны фон Толя (Von Toll). Сярод іх — “Від Слоніма”... Цудоўна глядзяцца працы Ганса Штайнера (Hans Steiner), выкананыя ў экспрэсіянісцкім стылі.

Праца Ганса Грубэра (Hans Gruber) “Прароцтва”

ў гумарыстычнай і наіўна-старадаўняй форме перадае карціну паражэння Італіі ў вайне. Ландшафтныя працы А. Роса (A. Ross), у тым ліку дзве сімпатычныя вулічныя сцэны са Слоніма, і карціны Ота Бартэльта (Otto Bartelt) нельга не згадаць, хаця яны і адносяцца да сярэдняга ўзроўню мастацкага выканання.

Галоўная заслуга ў арганізацыі гэтай невялікай, але вытанчанай выставы належыць берлінскаму гравёру і скульптару Гансу Баштаньеру (Hans Bastannier). Ён таксама прадставіў на выставу тры свае працы.

Вядомы мастак Георг Траньер (Georg Tronnier) напісаў некалькі партрэтаў, у тым ліку яго правасхадзіцельства фон Войрша. Удала выглядаюць і партрэты Дзітмана (Dittmann).

На выставе быў прадстаўлены адзіны скульптар (і гэта стала адкрыццём) — Бернхард Гюнтэр (Bernhard Günter). У грамадзянскім жыцці ён фатограф з г. Гаслар. На вайне адкрыўся яго талент як скульптара. Ён выканаў дзве працы ў пластыліне: маска мастака Траньера і галава прафесара Г. Б. Нягледзячы на тое, што гэта былі яго першыя творы, выкананы яны высокапрафесійна.

Прафесар Г. Б.

Пераклаў
●Ігар Падгарадзецкі

*Высветліць, на якой вуліцы знаходзіўся гэты дом, пакуль не ўдалося.

**Аўтар зацемкі называе беларускую зямлю "расійскай".

***Ахтэнхаген маляваў і Татарскую вуліцу ў Слоніме. Гл.: Ёрш С. Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 7.




*Салдацкія могілкі на Слонімшчыне. Малюнак малодшага лейтэнанта Вальтэра Фэста. У публікацыі ў газеце "Kriegszeitung von Baranowitschi" (№ 10 ад 2 лютага 1918 года) адзначаецца, што працу на слонімскай выставе купіў нямецкі военачальнік Рэмус фон Войрш.*



**Kunstausstellung in Slonim.**

In dem freundlichen Leseheim der hiesigen Vermessungsabteilung ist am 1. Dezember eine über 200 Nummern umfassende Kunstausstellung eröffnet worden, die ausschließlich von in Slonim tätigen Soldaten und Offizieren beschickt wurde. Trotzdem diese Veranstaltung ohne kritische Sichtung zustande kam, gibt sie mehr als guten Durchschnitt, in einzelnen Fällen sogar Werke von hoher Qualität, die auch anderswo in einem anspruchsvolleren Rahmen durchaus bestehen würden. Und vielleicht liegt noch ein besonderer Reiz in der Tatsache, daß die Mehrzahl der gezeigten Arbeiten nicht einmal von berufsmäßigen Künstlern stammt. Der Krieg, der so oft ein grausamer Vernichter blühenden Lebens war, hat doch auch neue Kräfte in Schwung gebracht, Energien ausgelöst, die bei friedlicher Berufsarbeit wohl nie in Erscheinung getreten wären. Er hat vor allem — das lehrt diese Ausstellung deutlich — das Auge geöffnet für die landschaftlichen Reize der eroberten Gebiete, hat den Blick auf das Wesentliche eingestellt und das deutsche Temperament sich auch einer fremden Umwelt gegenüber behaupten gelehrt. So ist naturgemäß auch bei den hier gezeigten Werken das

Усе нумары краязнаўчага месячніка
"Слонімскі край",
якія выйшлі на працягу 2016-2020 гадоў,
можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі
"Камунікат":
http://kamunikat.org/slonimski_kraj

# Пра пажар у Слоніме ў ліпені 1848 года

У 1848 годзе ў Слоніме адбыўся вялікі пажар. Але ў кнігах, прысвечаных гісторыі нашага горада, пра яго практычна нічога не пішуць. У адной з публікацый пра пажар згадваў даследчык Васіль Герасімчык. Ён пісаў, што горад тады *"амаль цалкам выгарэў"*.[1] Герасімчык відавочна паверыў М. Мілакоўскаму, аўтару кнігі пра гісторыю Слоніма. Той згадаў, што *"пажар знішчыў амаль увесь горад"*.[2] Пры гэтым Мілакоўскі прызнаваў, што *"падрабязных звестак пра пажары 1848 і 1875 г.г. нельга здабыць"*,[3] у адрозненне ад жудаснага пажару 1881-га.



Ці сапраўды ў 1848 годзе Слонім згарэў "амаль цалкам"? Звестак пра тое здарэнне сапраўды вельмі мала. З-за недахопу інфармацыі пра тыя падзеі даследчык Васіль Супрун нават дапускаў, што апошняя ўніяцкая царква ў Слоніме на Спаскай (цяпер — Васі Крайняга) вуліцы ў 1848 годзе магла быць спалена падчас антыўніяцкай кампаніі, якую праводзілі рускія ўлады.[4] Насамрэч, драўляны храм проста не ацалеў падчас гарадскога пажару. Ды і на той час ён ужо быў праваслаўным.

Дакладную дату пажару ўдалося высветліць з дапамогай *"Журнала Министерства внутренних дел"*, які выдаваўся ў Санкт-Пецярбургу. У статыстычных звестках па пажарах слонімскае здарэнне пазначана 10 ліпеня 1848 года. У той дзень згарэлі 164 дамы і 180 лавак.[5] Калі верыць гэтым лічбам, атрымліваецца, што ніяк нельга сказаць, што згарэла значная частка горада.[6] Насамрэч, менш за чвэрць. Вядома, што ў 1843 годзе ў горадзе было крыху больш за 700 дамоў.[7]

Пажар у Слоніме не трапіў у спіс значных пажараў, складзены Міністэрствам унутраных спраў. У ім быў пажар 19 ліпеня 1848-га, які адбыўся ў Пінску. Тады згарэлі 272 дамы, у тым ліку павятовая вучэльня, аптэка, 6 яўрэйскіх малітоўных дамоў, пашкоджаны сінагога і дамініканскі касцёл з манастыром.[8] У спіс МУС трапіў нават пажар у Міжэвічах. 19 жніўня 1848-га там згарэла дзяржаўная карчма, якая існавала пры Міжэвіцкай паштовай станцыі. Агонь знішчыў "гарачае віно", хлеб і маёмасць шынкара. Страты ацэньваліся на 2 тысячы рублёў срэбрам.[9]

Новыя падрабязнасці пра пажар у Слоніме знайшліся ў адным з дакументаў Гродзенскага губернскага праўлення ад 18 жніўня 1848 года. Ён рассылаўся па Расійскай імперыі з інфармацыяй, *"што ў горадзе Слоніме ад моцнага пажару, які адбыўся з 10 на 11 чысло*[10] *ліпеня месяца, згарэлі дамы, паперы, кнігі і справы Слонімскіх: Гарадавой Паліцыі з Кватэрнай Камісіяй, і Павятовага суда з Дваранскай апекай"*. Яе прасілі апублікаваць для інфармавання зацікаўленых асобаў. Яны мусілі *"зноў падаць дакументы з засведчанымі копіямі з тых дакументаў, якія ўнесены былі першапачаткова імі і былі там і згарэлі"*.[11]

На жаль, толькі прыблізна можам акрэсліць раён, які пацярпеў ад пажару. Мы ўжо згадвалі царкву на Спаскай вуліцы. Відаць, і будынкі вакол яе таксама згарэлі. Вядома, што падчас пажару на Апанасаўскай (цяпер — Пушкіна) вуліцы пацярпеў былы касцёл, перададзены праваслаўным. Цяпер на яго месцы пабудаваны Спаса-Праабражэнскі сабор. У розных гістарычных нататках пішуць, што ў 1848-м храм "цалкам згарэў". Згарэлі і драўляныя гандлёвыя рады, якія былі на месцы цяперашняга сквера па

| | | | |
|---|---|---|---|
| Слонимъ (уѣздный городъ Гродненской г.) . . . . . . . | іюля | 10 | 164 дома и 180 лав. |

Першамайскай вуліцы. Новы будынак быў узведзены ў канцы 1840-х з цэглы на тым жа месцы.[12] І суд, і паліцыя таксама былі дзесьці ў цэнтры горада.

Слонім хутка адбудаваўся. У 1857-м у горадзе было 811 дамоў — 66 мураваных і 745 драўляных. Па іншай інфармацыі — 32 мураваныя дамы і каля 1000 драўляных, з якіх каля 300 былі вельмі старыя і паўразбураныя.[13] Колькасць мураваных дамоў павялічвалася. У 1867-м іх было ўжо 303, драўляных — 781.[14]

Праз два тыдні пасля пажару 1848-га ў Слонім прыйшла новая бяда — халера. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

●Сяргей Ёрш

*О возобновленіи требованій въ нѣкоторыя Присутственныя мѣста Гродненской Губерніи, пострадавшія отъ происшедшаго въ Слонимѣ пожара.*

—

Виленское Губернское Правленіе, въ слѣдствіе отношенія Гродненскаго таковаго же, доводя до всеобщаго по своей Губерніи свѣдѣнія о происшедшемъ въ Г. Слонимѣ, съ 10 на 11 число минувшаго Іюля мѣсяца, пожарѣ, жертвою коего сдѣлалась большая часть Города, а въ томъ числѣ сгорѣли и зданія, занимаемыя тамошними: Городскою Полиціею, Квартирною Коммисіею, Уѣзднымъ Судомъ и Дворянскою Опекою,—равнымъ Присутственнымъ мѣстамъ сообщаетъ а подчиненнымъ предписываетъ, дабы почитающіяся неисполненными за помянутыми, потерпѣвшими отъ пожара: Полиціею, Квартирною Коммисіею, Уѣзднымъ Судомъ и Дворянскою Опекою, требованія по разнымъ дѣламъ, возобновили бы таковыя для надлежащаго удовлетворенія оныхъ. (695)


*[1] Герасімчык В. Вялікія слонімскія пажары // Слонімскі край, 2016, № 5. Чэрвень. С. 14.*

*[2] Милаковскій М. Описаніе города Слонима. — Гродна, 1891. С. 19.*

*[3] Тамсама.*

*[4] Супрун В. Дзеі над Шчарай (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 77.*

*[5] Журнал Министерства внутренних дел 1849. Кн. 7. Ч. 27. Ліпень. С. 28.*

*[6] Віленскае выданне відавочна перабольшвала, калі пісала пра тое, што ахвярай пажару стала "большая частка горада". Гл.: Виленскія губернскія ведомости (часть оффиціальная), 1848, № 37, 11 верасня. С. 482.*

*[7] Герасімчык В. Вялікія слонімскія пажары // Слонімскі край, 2016, № 5. Чэрвень. С. 14.*

*[8] Журнал Министерства внутренних дел 1848. Ч. 24. С. 306; Журнал Министерства внутренних дел 1849. Кн. 7. Ч. 27. Ліпень. С. 29.*

*[9] Журнал Министерства внутренних дел 1848. Ч. 24. С. 313.*

*[10] Пра тое, што пажар адбыўся 10-11 ліпеня, піша і даследчык Аляксандр Ерашэвіч: Ерашэвіч А. Дзяржаўная грашовая кампенсацыя матэрыяльных стратаў пагарэльцам гарадоў і мястэчак Беларусі (30-50-я гг. XIX ст.) // Исторические и психолого-педагогические науки: сб. науч. Статей. — Мінск: РІВШ, 2017. Вып. 17, ч. 1. С. 89.*

*[11] Закавказскій вестникъ (Тыфліс/Тбілісі), 1849, № 2, 6 студзеня. Падобная інфармацыя была і ў наступнай публікацыі: Виленскія губернскія ведомости (часть оффиціальная), 1848, № 37, 11 верасня. С. 482.*

*[12] Страчаная спадчына. — Мінск: "Беларусь", 2003. С. 342.*

*[13] Матеріалы для географіи и статистики Россіи, собранные офицерами генеральнаго штаба. Гродненская губернія. Составилъ П. Бобровскій. Часть вторая. — Санкт-Петербургъ, 1863. С. 868.*

*[14] Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. — Słonim, 1934. S. 34.*


## СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Тытус Свідэрскі



Нядаўна споўнілася 140 гадоў з дня смерці нашага земляка Тытуса Свідэрскага, педагога, гісторыка і літаратуразнаўцы. Ён нарадзіўся ў Слоніме ў 1843 годзе ў сям'і настаўніка Ануфрыя Свідэрскага. Пачатковую адукацыю атрымаў у Мінску (там у гімназіі працаваў бацька). Пасля была вучоба ў Санкт-Пецярбургу, Варшаве. Свідэрскі атрымаў выдатную гістарычную адукацыю. У 1870-я ён выкладаў у гімназіях у Любліне, Ломжы.

Цікава, што Свідэрскі ў той час заставаўся ўніятам, з-за чаго меў праблемы з рускімі ўладамі — яму прапаноўвалі/патрабавалі перайсці ў праваслаўе (магчыма, зацятым уніятам быў яго бацька). У 1873 годзе слонімец з'ехаў з Расійскай імперыі ў Аўстра-Венгерскую імперыю. У Кракаве (гэты польскі горад у той час уваходзіў у яе склад) выкладаў у гімназіі польскую і грэцкую мовы.

Тытус Свідэрскі напісаў некалькі гістарычных і літаратуразнаўчых працаў. Ён памёр 25 лютага 1880 года і пахаваны ў Кракаве.

●Генадзь Гурскі

# Прафесар Міхал Палінскі нарадзіўся ў Слонімскім павеце

Міхал Мадэставіч Палінскі (Палінскі-Пэлка, Пэлка-Палінскі ці Пелка-Палінскі) — прафесар Віленскага ўніверсітэта ў першай палове XIX стагоддзя, матэматык, педагог, калекцыянер. У шэрагу беларускамоўныхірускамоўных энцыклапедычных артыкулаў, якія прысутнічаюць у інтэрнэце, на сайце Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, месцам яго нараджэння пазначана Мінская губерня. Аднак у некралогу, змешчаным у верасні 1848-га ў неафіцыйнай частцы “Віленскіх губернскіх ведамасцяў”, пазначана, што ён нарадзіўся ў Слонімскім павеце.[1] Гэтай версіі трымаецца і беларускі гісторык Наталля Бярозкіна.[2] У польскіх крыніцах згадваецца ці Слонімскі павет, ці Наваградскае ваяводства. А ў адной публікацыі падрэсліваецца, што яго сям’я (магчыма, толькі бацька) паходзіць з Польшчы, адкуль перасялілася на землі былога ВКЛ.[3] На жаль, дакладнае месца нараджэння невядомае.



*Міхал Палінскі*

Таксама існуюць супярэчлівыя звесткі пра год нараджэння навукоўца. У беларускамоўных публікацыях згадваецца 1785 год. Гэтай даты прытрымліваецца і Бярозкіна.[4] Пры гэтым у згаданым некралогу пазначаны 1783 год. У польскіх крыніцах можна сустрэць тры даты — 1783, 1784 і 1785 гады. З гэтай супярэчнасцю паспрабавала разабрацца польская даследчыца Каліна Бартніцка, якая прыйшла да высновы, што праўдзівая дата нараджэння Міхала Палінскага — 1783 год.[5] Справа ў тым, што ў віленскім архіве захаваліся некаторыя дакументы: у адным з іх пазначана, што ў 1831-м Палінскаму было 48 гадоў, у іншым ён сам піша, што ў красавіку 1832-га яму было 49 гадоў. І самае галоўнае там жа ёсць згадка, што будучы прафесар Віленскага ўніверсітэта быў ахрышчаны 6 траўня 1783 года ў парафіяльным касцёле ў Раготне.[6] Атрымліваецца, што найхутчэй нарадзіўся Міхал Францішак Юзаф Палінскі, сын шляхціца Мадэста Віта Палінскага і Марыяны з Галоўчыцаў, дзесьці на поўдні цяперашняга Дзятлаўскага раёна (у той час у межах Слонімскага павета).

Вядома, што Палінскі скончыў 6 класаў Жыровіцкай базыльянскай школы (у розных публікацыях яе называюць

таксама вучэльняй, павятовай школай і нават гімназіяй).[7] З восені 1804-га ён вучыўся ў Вільні ў настаўніцкай семінарыі пры мясцовым універсітэце. Там жа ў 1808 годзе пачаў выкладаць. Пасля была праца настаўніка ў гімназіях у Мінску і Вільні. Міхал Палінскі стаў доктарам філасофіі (1814). У 1816 годзе ён пачаў выкладаць матэматыку ў Віленскім універсітэце. У тым годзе выйшла самая вядомая кніга навукоўца — “Пачаткі плоскай трыганаметрыі”. У 1817-м Палінскага адправілі на “стажыроўку” ў Германію, Францыю, Італію. Пасля яшчэ год там жа ён папраўляў за ўласны кошт сваё слабое здароўе.

Міхала Палінскага тройчы (у 1824, 1827 і 1830 гадах) выбіралі дэканам фізіка-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Нейкі час прафесар матэматыкі быў інспектарам школ (у тым ліку і Гродзенскай губерні), займаўся іх рэаганізацыяй. Быў членам Падуанскай, Фларэнтыйскай акадэмій, Парыжскага філаматычнага таварыства, Варшаўскага таварыства сяброў навук.

Палінскі працаваў ва ўніверсітэце да яго скасавання рускімі ўладамі ў 1832 годзе. У 1836-м выйшаў у адстаўку, жыў у Вільні. У гэты час навуковец і педагог займаўся выключна калекцыянаваннем і бібліяграфічнымі справамі. Ён сабраў вялікую бібліятэку, набываў у асноўным кнігі, выдадзеныя ў ВКЛ ці пра колішняе Княства. Былі ў яго зборы і шматлікія рукапісы. Матэматык захапіўся бібліяграфіяй, меў публікацыі на гэтую тэму. А яшчэ быў зацятым калекцыянерам гравюр, манет, медалёў.

Міхал Палінскі памёр ад халеры 19(31) жніўня[8] 1848 года, быў пахаваны на Бернардынскіх могілках у Вільні.

Дзяцей ў Палінскага не было, пасля яго смерці зборы дасталіся швагру Валер’яну Гурскаму, сын якога Яраслаў у 1902-м іх прадаў. Кнігазбор і архіў пераходзілі з рук у рукі, пакуль не трапілі ў музей Чартарыскіх у Кракаве (відаць, яны ўжо моцна “парадзелі”), у 1939-м адтуль былі перададзены ва ўніверсітэт Стэфана Баторага ў Вільню. Цяпер захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта і ў бібліятэцы Літоўскай Акадэміі навук у Вільні.[9]

●Генадзь Гурскі



О КОНЧИНѢ ПРОФЕССОРА ПОЛИНСКАГО.

19-го Августа скончался здѣсь, послѣ кратковременной болѣзни, Михаилъ Пелка Полинскій, Докторъ Философіи, Статскій Совѣтникъ, заслуженный Профессоръ, Высшей Прикладной Математики, б. Виленскаго Университета, Кавалеръ Орденовъ: Св. Владиміра 3-й степени и Св. Анны 2-й степени, на 65 году

и сжатомъ преподаваніи своего предмета, ставять его справедливо на ряду съ знаменитыми и заслуженными профессорами б. Университета; личныя и общежительныя добродѣтели его: благородство и праводушіе характера, пріятная вѣжливость въ обхожденіи и постоянные труды на ученомъ поприщѣ для общаго блага, доставили ему общую любовь и почтеніе, которыя сопровождали его во гробъ и увѣковѣчать память его въ сердцахъ соотечественни-

ВИЛЕНСКІЯ
ГУБЕРНСКІЯ ВѢДОМОСТИ.
№ 38.
СУББОТА, СЕНТЯБРЯ 18-го ДНЯ 1848 ГОДА.
ЧАСТЬ НЕОФФИЦІАЛЬНАЯ.

Содержаніе: Продолженіе извѣстій о ходѣ холеры въ Виленской Губерніи.— О кончинѣ Профессора Полинскаго.—О пожарѣ въ Кременчугѣ.—Хлѣбъ изъ одной картофельной муки.—О торговомъ сословіи въ Россіи.—Акцизъ съ табаку.—О добытомъ золотѣ въ 1847 году.

*[1] О кончине профессора Полинскаго // Виленскія губернскія ведомости (часть неоффиціальная), 1848, № 38, 18 верасня. С. 182.*

*[2] Берёзкина Н. Библиотеки и распространение научных знаний в Беларуси (XVI-XX вв.). — Минск, 2013. С. 132.*

*[3] Dzieje porozbiorowe Narodu Polskiego ilustrowane. — Warszawa, 1904. Tom II, cz. 1. S.188.*

*[4] Библиотеки и распространение научных знаний… С. 132.*

*[5] Bartnicka K. Człowiek Uniwersytetu: Michał Pełka-Poliński (1783 — 1848): kariera akademicka ubogiego szlachcica na Uniwersytecie Wileńskim. Cz. I // Rozprawy z Dziejów Oświaty (Warszawa). 2002, T. 41. S. 76. Цікава, што ў тым жа артыкуле ў іншым месцы даследчыца піша, што Палінскі нарадзіўся ў 1784 годзе. Гл.: S.84.*

*[6] Тамсама.*

*[7] Виленскія губернскія ведомости (часть неоффиціальная), 1848, № 38; Człowiek Uniwersytetu… S. 87; Библиотеки и распространение научных знаний… С. 132.*

*[8] У тых жа артыкулах у Вікіпедыі памылкова пазначана яго датай 7(19) жніўня.*

*[9] Człowiek Uniwersytetu… S. 79-80.*

# Слонім на гравюры

Городъ Слонимъ, Гродненской губерніи.

Рисовалъ П. Борисовъ, гравировалъ С. Вишневскій.

Гэтая гравюра, на якой мы бачым Слонім з боку Лабазоўкі, добра вядомая. Яна ёсць у Вікіпедыі, але без спасылкі на першую публікацыю. Магчыма, нам яе ўдалося адшукаць. Гравюра была змешчана ў траўні 1876-га ў штотыднёвым ілюстраваным часопісе *“Живописное обозреніе”*, які выдаваўся ў Санкт-Пецярбургу.* Там нават пазначаны яе аўтары: *“Маляваў П. Барысаў, гравіраваў С. Вішнеўскі”.* У тым жа нумары ёсць невялікі тэкст пра наш горад.** У ім згадваюцца нейкія “старажытныя замкі”, якія, нібыта, захаваліся на той час у Слоніме. Відаць, маюцца на ўвазе не замкі, а палацы.

Вядомы варыянт гэтай гравюры, апублікаваны ў 1882 годзе.*** На ім яшчэ не пачалася разгрузка/загрузка судна, і гэта не адзінае адрозненне.




●Сяргей Ёрш

**Живописное обозреніе, 1876, 9 траўня. № 19. С. 293*

***Тамсама. С. 295.*

****Живописная Россія. Отечество наше въ его земельномъ, историческомъ, племенномъ, экономическомъ и бытовомъ значеніи. Томъ III. Часть 1: Литовское Полесье. Часть 2. Белорусское Полесье. — С.-Петербургъ, Москва, 1882. С. 189.*

# Слонім на гравюры

№ 19. ЖИВОПИСНОЕ ОБОЗРѢНІЕ. 295

## ГОРОДЪ СЛОНИМЪ.

Въ числѣ городовъ Гродненской губерніи Слонимъ считается однимъ изъ лучшихъ, какъ по красотѣ своего положенія, такъ и потому, что въ богатой исторіи бывшаго гродненскаго княжества, онъ всегда занималъ далеко не послѣднее мѣсто. Живописно раскинувшись по обѣимъ берегамъ рѣки Шары, Слонимъ и въ настоящее время обращаетъ на себя вниманіе сохранившимися въ немъ древними замками, свидѣтельствующими о томъ богатомъ прошломъ, когда въ этихъ замкахъ жили именитые воеводы, когда жизнь ключемъ кипѣла, какъ въ городѣ, такъ и въ его окрестностяхъ. Теперь Слонимъ, хотя и не представляетъ такого оживленія, но продолжаетъ считаться однимъ изъ видныхъ городовъ во всей губерніи. Населеніе его въ настоящее время простирается до 11,596 чел., которое, по дѣятельности своей ни въ чемъ не разнится отъ жителей прочихъ уѣздныхъ городовъ Россіи: таже неподвижность и таже вялость... Только во время существующей здѣсь ярмарки городъ нѣсколько оживаетъ: въ него со всѣхъ концовъ уѣзда съѣзжаются окрестные помѣщики и городъ принимаетъ праздничный видъ, но затѣмъ все входитъ въ свою колею и жители, какъ бы утомленные отъ непривычнаго оживленія принимаются по прежнему тянуть однообразную лямку жизни. Въ городѣ насчитывается 7 церквей, которыя, по архитектурѣ своей, не отличаются ничѣмъ особеннымъ; нѣкоторыя изъ нихъ замѣчательны только тѣмъ, что построены нѣсколько столѣтій тому назадъ. Въ окрестностяхъ города расположено нѣсколько заводовъ, преимущественно винокуренныхъ.

По берегамъ рѣки Шары, до впаденія ея въ городъ, встрѣчаются мѣстности, поражающія своею необыкновенною живописностью. Подходя къ городу, Шара разливается и омывая высокіе холмы, покрытые богатою растительностью, обращаетъ окрестности гор. Слонима въ чрезвычайно красивыя ландшафты, какъ въ томъ мѣстѣ, гдѣ Шара впадаетъ въ городъ, такъ и тамъ гдѣ она выходитъ изъ него.

*Тэкст пра Слонім у часопісе "Живописное обозреніе" (Санкт-Пецярбург)*



Слонимъ.

*Гравюра з выявай Слоніма ў кнізе "Живописная Россія"*

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Працяг, пачатак у №№ 10-12, 2019 г., № 2-3, 2020 г.*

### Археолаг і краязнаўца Канстанцін Гнаінскі

Не менш цікавай постацю ў гісторыі Слонімшчыны з‘яўляецца другі сын Ксаверыя Гнаінскага Канстанцін, які быў краязнаўцам і археолагам, сябраваў з Зыгмунтам Глогерам і Міхалам Федароўскім.

Пасля падаўлення паўстання 1863-1864 гадоў наступіў час рэакцыі: дзейнічалі следчыя камісіі і палявыя суды, адбываліся масавыя арышты, высылкі, канфіскацыі маёнткаў, спаганяліся штрафы і вялікія грашовыя паборы, звальняліся са службы католікі, зачыняліся каталіцкія храмы. І калі ўжо на справе немагчыма было аднавіць самастойнасць ВКЛ, пачынаецца новы этап глыбокага даследавання гісторыі і культуры беларускага народа. Вялікі ўнёсак у развіццё беларусазнаўства на Слонімшчыне ўнёс і Канстанцін Ксавер’евіч Гнаінскі.

Польскі гісторык Зыгмунт Глогер ў сваіх працах піша, што Канстанцін Гнаінскі праводзіў раскопкі курганоў разам з фальклярыстам, этнографам і археолагам Міхалам Федароўскім (1853 — 1923), які ў 1877-м, на запрашэнне Канстанціна Гнаінскага, на некаторы час пасяліўся ў яго маёнтку Студзераўшчына Слонімскага павета.*



Зыгмунт Глогер



Міхал Федароўскі

### Зыгмунт Глогер

Зыгмунт Глогер (1845 — 1910) — прадстаўнік шляхецкага роду, ураджэнец Падляшша. Быў сябрам гістарычнай, археалагічнай і антрапалагічнай камісій пры Кракаўскай акадэміі ведаў. Глогер удзельнічаў са сваім сябрам Міхалам Федароўскім у археалагічных, фальклёрна-этнаграфічных і краязнаўчых экспедыцыях па Беларусі і Літве. Падчас вандровак ён збіраў творы нацыянальнай культуры: народныя песні, прыпавесці, прыказкі, малюнкі, старадаўнія лісты, народныя касцюмы і археалагічныя знаходкі. Быў аўтарам некалькіх соцень навуковых прац, артыкулаў, прысвечаных народазнаўству, мастацтву.

### Міхаіл Федароўскі

Паны Гнаінскія ў Вішаве штодзённа карысталіся хатняй гутарковай мовай, калі звярталіся да сялян, бо трапілі пад уплыў народнай мясцовай гаворкі з самога дзяцінства. І вось такую жывую народную мову прыехаў паслухаць у Вішава і Студзераўшчыну сябра Канстанціна Гнаінскага Міхал Федароўскі. Жыхары Студзераўшчыны былі вясёлымі і актыўнымі людзьмі, любілі спяваць народныя прыпеўкі і танцаваць польку, падыспань, кракавяк. І вось на такіх беларускіх вечарынах і народных святах, вяселлях і хрэсьбінах пабываў у Вішаве і Студзераўшчыне Федароўскі, калі часцяком гасціў у Канстанціна Гнаінскага.

Міхал Федароўскі сабраў найбагацейшы этнаграфічны матэрыял: песні і абрады, паданні і казкі, прыказкі і загадкі, вераванні і забабоны ад жыхароў вёсак Дварэц, Горкі, Студзераўшчына, Вішава, Моўчадзь, пасёлка Альбярцін і іншых ваколіц Слоніма, апублікаваўшы іх у трэцім томе сваёй 8-томнай працы “Люд беларускі”.

На працягу 15 гадоў (1877 — 1892) Міхаіл Федароўскі адсылаў Зыгмунту Глогеру на Беласточчыну свае археалагічныя (каля 11 тысяч адзінак) і этнаграфічныя (каля 1 тысячы) матэрыялы, сабраныя ў Беларусі. Глогер сабраў у сваім маёнтку багатую бібліятэку, вялікую музейную калекцыю археалагічных, этнаграфічных, археаграфічных, нумізматычных матэрыялаў. Усё гэта ён завяшчаў найперш Кракаўскаму і Варшаўскаму этнаграфічным музеям.

●Святлана Брайчук

Заканчэнне ў наступным нумары

**Gloger Z. W sprawie etnografii i wykopalisk w powiecie Słonimskim // Przegląd Bibliograficzno-Archeologiczny (Warszawa), 1881. t. II. S. 229.*

# Антон Шукала з Альбярціна, агент Сяргея Пясецкага

Сяргей Пясецкі (1901 — 1964) — вядомы польскі пісьменнік беларускага паходжання. Ён нарадзіўся ў Ляхавічах. У маладосці ваяваў супраць бальшавікоў у складзе атрадаў беларускай паўстанцкай арганізацыі “Зялёны Дуб”. Пасля заканчэння вайны стаў кантрабандыстам і польскім разведчыкам — з Заходняй Беларусі нелегальна хадзіў у савецкую Беларусь, дзе стварыў сетку сваіх агентаў. Вядомасць Пясецкаму прынёс яго аўтабіяграфічны раман “Каханак Вялікай Мядзведзіцы” (1937), які напісаў у польскай турме.




Сетка агентаў Сяргея Пясецкага ў 1922-1924 гадах існавала ў некалькіх гарадах савецкай Беларусі. У Бабруйску ў яе ўваходзіў чырвоны камандзір Антон Шукала (Шукайла), які служыў на пасадзе справавода/перапісчыка ў канцылярыі штабу дывізіі. Вядома, што ён нарадзіўся ў Альбярціне ў 1898-м ці ў 1899 годзе. Шукала быў бальшавіком. На судзе яго называлі *“інтэлігентным маладым чалавекам”*. Дзе ён вучыўся, невядома. Відаць, Пясецкі лічыў Антона Шукалу сваёй удачай, самым каштоўным агентам. Часам ён жыў у яго, адчуваў сябе там у бяспецы. На жаль, пакуль невядома, з якіх меркаванняў слонімец працаваў на польскую разведку — з ідэалагічных ці выключна фінансавых. На судзе ён беспаспяхова спрабаваў давесці, што перадаваў няпраўдзівыя звесткі і планаваў раскрыць шпіёнскую сетку.


Сяргей Пясецкі

Правал адбыўся ў студзені 1924 года. Спачатку чэкісты схапілі 17-гадовага Георгія Петрашкевіча, з якога выбілі ўсё, што ён ведаў. Сяргей Пясецкі здолеў вырвацца і ўцячы за мяжу.

Па звестках гісторыка Ніны Стужынскай, Антона Шукалу і яго жонку Вольгу ў сакавіку 1924-га прывезлі з Бабруйска ў Менск. Шукалу жорстка збівалі. У выніку ён прызнаўся, што працаваў на Пясецкага, польскага разведчыка, паведамляў яму сакрэтную інфармацыю пра Чырвоную Армію з дакументаў, якія праходзілі праз яго рукі. У ліпені 1924 года Антона Шукалу расстралялі, адзінага з сеткі. Яму было 25 гадоў. 19-гадовая жонка, якая выконвала функцыі кур’ера, атрымала ўмоўны тэрмін.

●Генадзь Гурскі

# Вандам у Слоніме



У канцы XIX стагоддзя дзевяць гадоў у нашым горадзе служыў афіцэр рускай арміі, які ў далейшым стаў вайсковым разведчыкам і аналітыкам, даслужыўся да звання генерал-маёра.

Аляксей Ядрыхін нарадзіўся ў 1867 годзе ў шматдзетнай сям'і адстаўнога салдата дзесьці ў Мінскай губерні. Відаць, пад уплывам бацькі ён выбраў сабе шлях вайскоўца. Пасля заканчэння Віленскай пяхотнай юнкерскай вучэльні ў 1888-м унцер-афіцэр Ядрыхін трапляе ў Слонім, пачынае службу ў 117-м пяхотным Яраслаўскім палку. Мяркуецца, што ён марудна прасоўваўся ўверх па службе з-за свайго нізкага сацыяльнага паходжання і недахопу пачатковай адукацыі.* Падпаручнікам ён стаў у 1890-м, паручнікам — у 1894 годзе. Пра службу Аляксея Ядрыхіна ў Слоніме вядома мала. У пачатку 1892-га адбылася нейкая таямнічая гісторыя, калі падпаручнік Ядрыхін выратаваў аднаго ці некалькі чалавек (пры якіх абставінах, невядома). У красавіку таго года ён быў узнагароджаны медалём *“За спасение погибающих”*.

Вядома, што афіцэр займаўся самаадукацыяй, шмат чытаў. Ён хацеў развівацца далей і ў 1897-м паступіў у Мікалаеўскую акадэмію Генштабу. Аляксей Ядрыхін назаўсёды развітаўся са Слонімам. У далейшым ён дзейнічаў як вайсковы разведчык пад прыкрыццём журналісцкай дзейнасці ў Паўднёвай Афрыцы, дзе ішла англа-бурская вайна. Падпісваў свае рэпартажы псеўданімам Вандам (ад прозвішча бурскага “палявога камандзіра” Ван Дама), а ў 1907-м афіцыйна на яго змяніў сваё прозвішча. З разведмісіяй наведваў Кітай, ваяваў у Першую сусветную. Быў афіцэрам Генштабу рускай арміі, летам 1917-га стаў генерал-маёрам. Вядомы як аўтар аналітычных кніг, лічыцца адным з першых у Расійскай імперыі даследчыкаў у галіне геапалітыкі і тэорыі ваеннай міжнароднай бяспекі.** Некаторыя яго працы ў 2000-я перавыдаваліся ў Маскве.

Ядрыхін памёр у 1933 годзе і пахаваны ў Таліне.

●Генадзь Гурскі

**Осмоловский А. Белорусы и великие войны XX века: как Вандам из-под Минска был тайным агентом России в Южной Африке // Комсомольская правда в Беларуси? 2019, 20 лістапада; https://www.kp.by/daily/27056.7/4122543/*

***Понамарев С. Генерал Вандам — забытый основатель русской геополитики // http://pircenter.org/media/content/files/1/13413290050.pdf*

# Дзеці — ахвяры ваўкоў. Трагічная хроніка лета 1850 года

Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі фіксавала разнастайныя здарэнні. Часта ў іх згадваецца Слонімшчына. У канцы ліпеня — у першай палове жніўня 1850 года ў павеце адбылася цэлая серыя нападаў ваўкоў на дзяцей, якія пасвілі каля вёсак скаціну.* Змяшчаем гэтую трагічную хроніку на старонках "СК".


ЖУРНАЛЪ МИНИСТЕРСТВА ВНУТРЕННИХЪ ДѢЛЪ. 1850. ЧАСТЬ ТРИДЦАТЬ-ВТОРАЯ. С. П. Б.

31 ліпеня ў Хадзявічах 13-гадовы Іван Турко, які быў на выхаванні ў сваякоў, пайшоў на поле каля вёскі і на яго з кустоў напаў воўк. Ён схапіў яго і хацеў зацягнуць у лес. Але кінуў, калі за ім пагналіся сяляне. Хлопец быў увесь паранены, ён памёр.

У той жа дзень каля Чамяроў воўк напаў на 12-гадовага Сямёна Авесеня (Хвясеню?), які пасвіў скаціну каля вёскі. Драпежнік знёс яго ў лес. Толькі на наступны дзень знайшлі рэшткі ног і ванторобаў…

4 жніўня на полі каля Сялявічаў воўк загрыз 8-гадовую Мар'ю Рамкевічаву.

7 жніўня ў Плаўскіх воўк напаў на двараніна 13-гадовага Ясафата Дмухоўскага. Ён быў каля хлява, паспеў заскочыць на плот і махаў палкай, якая была ў яго. Воўк толькі параніў яго нагу і ўцёк.



У той жа дзень (мясцовасць не пазначана, верагодна, таксама каля Плаўскіх) ваўкі напалі на 11-гадовую Еву Дабраўкоўну, якая гнала валоў. Яе з'елі...

9 жніўня ў лесе каля маёнтка Хмялеўшчызна памешчыка Чачота воўк напаў на хлопчыкаў, якія пасвілі быдла. Схапіў аднаго і зацягнуў у лес. Пазней знайшлі толькі косткі і парванае адзенне.

10 жніўня каля Вароніч воўк напаў на дзяцей селяніна Каляневіча. 13-гадовы Іосіф і 10-гадовая Ганна пасвілі скаціну. Дзяўчынка загінула...

12 жніўня каля Какошчыц воўк напаў на 11-гадовага Васіля Дабрэна (відаць, Дабрыяна), які пасвіў скаціну. Хлопчык быў моцна пакусаны.

14 жніўня каля Сурынкі два ваўкі напалі на трох сялянскіх дзяўчынак, якія ў кустаўі пасвілі скаціну. 12-гадовую Разалію Лысую драпежнікі загрызлі і забралі з сабой. Сяляне пагналіся і праз кіламетр дагналі ваўкоў, але дзяўчынка была ўжо мёртвая…

Пасля гэтых выпадкаў у Слонімскім павеце рабіліся на ваўкоў "частыя аблавы". Але пра іх вынікі нічога не паведамлялася.

●Сяргей Ёрш

*Журналъ министерства внутреннихъ делъ. 1850. Ч. 32. — Санкт-Пецярбург. С. 286-288.*

# Нешчаслівы Слізень, ці пажар у Шундроўскай карчме

У ноч з 15 на 16 красавіка 1849 года ў Шундрах на Слонімшчыне згарэла дзяржаўная карчма. Разам з будынкамі, маёмасцю згарэла і жывёла. Страты дасягалі 852 рублёў срэбрам. У гэтую суму ўваходзіла страчаная маёмасць і жывёла шынкаркі Майсейчыкавай. Асобна былі падлічаны страты памешчыка Слізня (на жаль, сума невядомая). У агні загінулі дзевяць вазоў, "нагружаных рознымі рэчамі", якія везлі аж з Санкт-Пецярбурга. І пасля такой цяжкай і доўгай дарогі, калі заставалася зрабіць апошні пераход, адбыўся згаданы пажар. Груз Слізню везлі дзяржаўныя сяляне з Маскоўскай губерні Андрэй і Пётр Катаковы. Яны страцілі шэсць коней, 50 рублёў срэбрам наяўных грошай і даўгавых распісак на такую ж суму.*

●СЁ

*Журналъ министерства внутреннихъ делъ (Санкт-Пецярбург), 1849, ліпень. Ч. 27. Кн. 7. С. 286-288.*

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім

*Працяг, пачатак у № 8-12, 2019 г., № 2-3, 2020 г.*

У другой прыходскай вучэльні адбылося амаль тое самае. Тут мы сталі дзейнічаць настойліва і хутка. Пакуль нашы прадстаўнікі вялі перамовы з настаўнікам, частка таварышаў рассыпаліся па класах і стала выганяць вучняў малодшых класаў. Настаўнік патлумачыў, што з-за патрабавання вучняў і рабочых ён заняткі спыняе, вучні могуць ісці дахаты, але двое вучняў старэйшага класа застаюцца ў школе да вечара, як пакаранне за свавольствы. Узняўся неапісальны шум і крык. Таварыш Крупеня, смеючыся яму ў твар, абʼявіў, што яго жаданне ці распараджэнне выканана не будзе, як недарэчнае і бессэнсоўнае, што рэвалюцыйная моладзь сама вызваляе іх ад пакарання, як сваіх таварышаў. Тым часам некалькі таварышаў з Камянецкім на чале, уварваўшыся да пакараных, адчынілі дзверы пакою і з крыкам: *"Таварышы, сёння вы свабодныя, заняткаў не будзе, ідзіце разам з намі",* — вызвалілі іх. Вызваленыя вучні далучыліся да працэсіі.

Адсюль мы накіраваліся ў народны дом. У вялізнай зале адкрыўся мітынг, на якім выступалі пераважна навучэнцы. У прамовах было шмат рэвалюцыйнага энтузіязму, маладога запалу і глыбокай веры ў рэвалюцыйную барацьбу, але больш было нянавісці да цырызму. Цяжка перадаць праз 20 гадоў той настрой, які тады валодаў намі. Памятаю толькі, што гэта былі самыя шчаслівыя хвіліны ў нашым жыцці. Нават пракламацыі, якія ляжалі ў маёй кішэні, здаваліся мне каштоўным скарбам: я ўвесь час абмацваў іх рукой, нібыта баяўся іх згубіць.

Пасля заканчэння мітынгу большасць навучэнцаў і рабочых накіравалася ў будынак яўрэйскай сінагогі, дзе праходзіў грандыёзны мітынг па бягучым момане. Выступалі бундаўцы, эсэры, анархісты і кадэт Якабсан, будучы член першай дзяржаўнай думы.[1]

У двацатыя чыслы снежня [1905 года] нас распусцілі на калядныя вакацыі. З цэлым стосам нелегальшчыны я паехаў да сябе на радзіму ў мястэчка Косава, якое знаходзілася ў 40 вярстах ад Слоніма. Здаецца, ужо на другі дзень майго знаходжання ў Косаве, я патрапіў на вялікі бундаўскі мітынг. Маё зʼяўленне сярод косаўскіх партыйцаў было сустрэта з захапленнем. Мяне сустрэлі як нечаканага, але дарагога госця. Да мяне падыходзілі знаёмыя і незнаёмыя таварышы, ціснулі руку, ветліва ўсміхаліся і засыпалі пытаннямі пра маю партыйнасць. Многія былі вельмі здзіўлены маім зʼяўленнем. Тлумачыцца ўсё гэта вельмі проста.

У рысе яўрэйскай аселасці і асабліва ў мястэчках Беларусі[2] сацыялістычны рух абапіраўся выключна на яўрэйскі пралетарыят і інтэлігенцыю. Сацыялісты з хрысціян — палякаў і рускіх[3] — былі рэдкасцю. Нават у Слоніме рускіх сацыялістаў наўрад ці было больш за адзін-два дзясяткі. Вось чаму маё зʼяўленне на мітынгу з сацыялістычнай літаратурай у кішэнях не магло не быць заўважаным. Большасць косаўскіх партыйцаў (бундаўцаў,



*Уладзімір Якубсон*

сіяністаў, анархістаў) былі маімі аднагодкамі, якія мяне ведалі яшчэ з дзяцінства; яшчэ не так даўно мы вялі вайну на нацыянальнай глебе, "частуючы" адзін аднаго кухталямі. Цяпер жа акультурваючы павеў рэвалюцыі зрабіў нас братамі, разбурыў каставыя і нацыянальныя рамкі, што падзялялі людзей на эліна і іудзея. Акрамя таго, я быў першым і амаль адзіным рэвалюцыянерам з не яўрэйскага серадовішча ў Косаве, калі не лічыць 2-3 напаўпісьменных рабочых.

Пасля мітынгу шавец Якаў Чарнаморац запрасіў мяне на пасяджэнне эсэраўскага кружка. У праграмах я разбіраўся вельмі слаба, але заўважна хіліўся да народніцтва. Мяне прыцягваў тэрор і аграрнае пытанне, а імёны Гершуні, Сазонава і Каляева гаварылі больш моцна, чым усялякія довады і дыялектычныя прыёмы. Я ахвотна прыняў прапанову Чарнаморца і адправіўся з ім у суседнюю сінагогу, дзе засядалі "маладыя эсэры", чалавек 15. На

чале косаўскай групы маладых эсэраў (максімалістаў) стаяў студэнт горнага інстытута Леў Давідавіч Кронік, заснавальнік групы, а ў далейшым вядомы левы эсэр, які памёр у 1923 годзе ў Маскве. Астатнімі членамі кружка былі рабочыя.

Тут мяне таксама сустрэлі ветліва і па-сяброўску. Большасць былі старыя знаёмыя, а з астатнімі я хутка пазнаёміўся. З усёй групы найперш звяртаў на сябе ўвагу Кронік. Невысокага росту, смуглы, з заўважным яўрэйскім носам і невялікімі чорнымі вусамі — ён быў тым характэрным яўрэйскім інтэлігентам-рэвалюцыянерам, якіх так шмат з'явілася ў перыяд 1903-1907 гадоў. Працаўнік з салідным рэвалюцыйным стажам, Леў Давідавіч падышоў да мяне, юнака-неафіта[4], неяк асабліва любоўна і па-сяброўску. Ён доўга размаўляў са мной сам на сам, нібыта жадаючы вывучыць мяне і вызначыць мой унутраны настрой. Дамовіўшыся пра сустрэчу ў яго на кватэры, мы распачалі агульную размову.

Кронік прачытаў невялікі даклад пра адрозненні праграмаў сацыялістаў-рэвалюцыянераў і сацыял-дэмакратаў. Пасля абмену думкамі ён жа прачытаў артыкул з "Рэвалюцыйнай Расіі" пра жыццё Івана Платонавіча Каляева[5]. На мяне артыкул зрабіў узрушаючае ўражанне.

●А. Левандоўскі

Працяг у наступным нумары

*[1] Гл. публікацыю: Гурскі Г. Адвакат і дэпутат Уладзімір Якубсон // Слонімскі край, 2018, № 2(24). Люты. С. 16.*

*[2] Аўтар піша пра "Паўночна-Заходні край".*

*[3] Католікаў і праваслаўных.*

*[4] Неафіт — навічок.*

*[5] Іван Каляеў (1877 — 1905) — рускі рэвалюцыянер, эсэр, тэрарыст. Пакараны смерцю.*

# Хлопцы ўцякалі "на вайну"

Падчас Першай сусветнай вайны вайсковым і паліцыйным уладам даводзілася займацца пошукам і вяртаннем да бацькоў юнакоў, якія ўцяклі здому на фронт. Гэтыя факты знайшлі адлюстраванне ў аб'явах войскам Мінскай вайсковай акругі (пазней — Мінскім ваенна-акруговым упраўленням "на тэатры вайны"). У іх згадваюцца і слонімцы.

У загадзе № 9 ад 31 студзеня 1915-га гаворка ішла пра просьбы ад бацькоў і сваякоў вярнуць дзяцей, якія ўцяклі здому, ці паведаміць, у якой частцы яны знаходзяцца ў якасці добраахвотнікаў. Іх мусілі перадаваць паліцыі для адпраўкі дахаты. У спісе ёсць 14-гадовы Сігізмунд Стрэмейка, вучань Слонімскай рэальнай вучэльні. Ён уцёк 12 студзеня. Бацькі хлопца жылі ў Слоніме.

4 лютага 1915 года аб'ява № 11 была цалкам прысвечана 13-гадоваму слонімцу Уладзіміру Хрэноўскаму. Яго маці Ганна Міхайлаўна прасіла штаб Мінскай вайсковай акругі вярнуць сына. Яна жыла ў Слоніме ў доме Казлоўскай па Замкавай вуліцы (цяпер — Камсамольская).

У аб'яве № 31 ад 12 сакавіка 1915 года згадваецца 16-гадовы Сяргей Яфімаў, які ўцёк 30 студзеня. Яго прасілі вярнуць у Слонім у казармы 118-га пяхотнага Шуйскага палка (верагодна, шукаў хтосьці са сваякоў).

У аб'яве № 74 ад 7 чэрвеня 1915 года згадваецца 13-гадовы Андрэй Саванец з Чамяроў, які ўцёк 16 красавіка. Знайсці яго не ўдавалася. 10 ліпеня ў аб'яве № 86 ён згадваецца зноў, але інфармацыя больш поўная. Яму ўжо было 14 гадоў. Саванец — "вучань 1-га класа вышэйшай Слонімскай пачатковай вучэльні", які ўцёк у 40-ю пешую Цвярскую дружыну. Яго мусілі вярнуць у вёску Чамяры да бацькі.

Падрыхтаваў ●Генадзь Гурскі



ОБЪЯВЛЕНІЕ

ВОЙСКАМЪ МИНСКАГО ВОЕННАГО ОКРУГА.

№ 11.

*4 Февраля 1915 года, гор. Минскъ.*

Въ Штабъ Минскаго военнаго округа поступила просьба отъ родителей возвратить имъ бѣжавшаго на театръ военныхъ дѣйствій сына—вдовы крестьянки Анны Михайловны Хрѣновской—Владиміра Константинова **Хрѣновскаго**, 13 лѣтъ, проживающаго въ гор. Слонимѣ, Гродненской губерніи по Замковой улицѣ въ домѣ Козловской.

| Свѣдѣнія о дѣтяхъ, бѣжавшихъ на театръ военныхъ дѣйствій. | Куда слѣдуетъ препроводить. |
|---|---|
| **Саванецъ**, Андрей, 14 лѣтъ, ученикъ 1-го класса высшаго Слонимскаго Начальнаго училища бѣжалъ въ 40 пѣш. Тверскую дружину. | Гродненскую губ. Слонимскій уѣздъ, Чемерскую вол., въ деревню Чемеры, къ отцу. |

IN MEMORIAM

# Надзея Дземідовіч



3 сакавіка 2020-га на 94-м годзе жыцця памерла Надзея Дземідовіч, ураджэнка слонімскай зямлі, вялікая беларуская патрыётка.

Надзея Раманаўна нарадзілася 24 лютага 1927 года на хутары каля Новадзевяткавічаў. Падчас нямецкай акупацыі вучылася ў Слоніме ў беларускай прагімназіі, была сяброўкай СБМ. Восенню 1944-га працягнула вучобу ўжо пры савецкай уладзе. У снежні таго года падчас арыштаў савецкімі карнымі органамі былых СБМаўцаў у Слоніме Надзея Дземідовіч перайшла на нелегальнае становішча. Амаль пяць гадоў яна хавалася, а яе шукалі. Знайшлі ў 1949-м у Казахстане, жудасна катавалі — падазравалі, што яна ўдзельнічала ў беларускім антысавецкім Супраціўленні. Сланімчанку асудзілі на 25 гадоў зняволення. Гэта жахліва вялізны тэрмін. Але Надзея Раманаўна не губляла сілы духу і за калючым дротам, удзельнічала ў Кенгірскім паўстанні палітвязняў.

Дземідовіч выйшла на волю ў 1956-м, жыла ў Калодзішчах пад Мінскам. Уваходзіла ў аб'яднанне беларускіх палітвязняў, удзельнічала ў шматлікіх вулічных акцыях нацыянальнага руху.

Надзея Дземідовіч пражыла доўгае жыццё. Яго яна апісала ў некалькіх кнігах успамінаў. А яшчэ яна пісала вершы.

*Каб уваскрос наш народ, як трава*
*Пасля доўгай зімы напрадвесні,*
*Каб нагрэта прыняла зямля*
*Зерне волі! Каб нам уваскрэсці!*

*Каб унукі не намі былі,*
*Гонар ім чужакі не таптали,*
*Каб панамі ў хаце жылі*
*Для сваёй наймілейшай дзяржавы.*

Светлая памяць!

*На здымку: У 2019 годзе Надзея Дземідовіч атрымала ад Рады БНР медаль да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі / radabnr.org*

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com

Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.